www.nv-online.info

**№ 2 (4049)**

9 студзеня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

РЕБУС

## Так становятся олигархами

Подконтрольный сенатору **Николаю Мартынову** холдинг «Белорусская кожевенно-обувная компания «Марко» в 2015–2017 годах получит бюджетный заем в сумме 200 миллиардов рублей под 3% годовых. Это следует из указа президента №533 от 31 декабря 2015 года.

Напомним, что инфляция в Беларуси измеряется двузначными цифрами. То есть нет сомнений, что кредит в значительной степени будет погашен… инфляцией. Между тем сама компания «Марко» – общество с ограниченной ответственностью, то есть частное предприятие. Вот так в Беларуси люди и становятся олигархами.

В виде кредита в 2015 году «Марко» было предоставлено 80 миллиардов рублей, в 2016 году планируется выделить 50 миллиардов рублей, в 2017-м – 70 миллиардов.

**Надежда СЕРОВА.**

СИТУАЦИЯ

## Прорвемся?

В Минске отдельным категориям граждан с 1 января 2016 года приостановлена выплата ежемесячного социального пособия к пенсии, которые выделялись из средств местного бюджета.

Об этом сообщил Комитет по труду, занятости и социальной защите Мингорисполкома.

Выплата приостановлена в связи с окончанием реализации Программы развития социального обслуживания в городе Минске на 2011–2015 годы.

Как пояснили «Народной Воле», новый документ еще не прошел юридическую экспертизу в Министерстве юстиции, поэтому невозможно сказать, какие социальные пособия будут сохранены.

**Адам КОЗЛОВ.**

НАДВОР'Е

## Мароз адступіў

Сёння, 9 студзеня, надвор'е будуць вызначаць атмасферныя франты і больш цёплыя паветраныя масы, якія перамяшчаюцца з Заходняй Еўропы.

Маразы аслабеюць. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -7...-14°C, па паўночным усходзе -15...-18°C, па паўднёвым захадзе -3...-6°C; максімальная тэмпература днём 0...-7°C; па паўночным усходзе месцамі -8...-10°C. На большай частцы тэрыторыі пройдзе кароткачасовы снег, днём па паўднёвым захадзе – мокры снег.

Мяккія маразы чакаюцца і ў наступныя дні.

ВІНШАВАННЕ



## «Спасіцель чакае ад верных дзяцей добрых пладоў – служэння любові і міласэрнасці дзеля нашых бліжніх»

*(З Паслання да Раждзжаства Хрыстовага Мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі).*

Дарагія і ўзлюбленыя ў Госпадзе Праасвяшчэнныя архіпастыры, увесь святарскі, дыяканскі і манаскі чын, набожныя міране – верныя дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы! Сардэчна віншую ўсіх вас з вялікім і светлым святам Раждзжаства Хрыстовага!

Следам за старажытнымі мудрацамі сёння ўсе мы, прыведзеныя Віфлеемскай зоркай, радасна накіраваліся да ясляў Бажэственнага Дзіцяці – Госпада нашага Ісуса Хрыста: Бог уцялесніўся, каб абнавіць свет, каб людзі «жыццё мелі, і ўдосталь мелі» (Ін. 10: 10). Святы апостал і евангеліст Лука паўтарае словы Ангела пра тое, што ў горадзе Давідавым «нарадзіўся вам сёння... Спасіцель, Які ёсць Хрыстос Гасподзь» (Лк. 2: 11). Наколькі ж вялікія невымоўная міласэрнасць і бязмежная любоў Госпада, Які прынізіўся дзеля нашага спасення! Тварэц неба і зямлі сышоў на зямлю, каб адкрыць Сябе людзям і ўказаць нам шлях у Нябеснае Царства.

Раждзэственскія малітвы нашай Святой Царквы з'яўляюцца працягам таго славаслоўя, якое ў дзівосную ноч Раждзжаства ангельскім спевам напоўніла ўвесь свет, горні і дольні: «Слава ў вышніх Богу і на зямлі мір, у людзях добрая воля» (Лк. 2: 13-14). У Раждзжастве Хрыстовым Усявышні Гасподзь паказаў чалавецтву вялікую тайну Уцялеснення Сына Божага, бо «сёння Бог на зямлю прыйшоў, і чалавек на Нябёсы ўзышоў».

Сёння Гасподзь Уседзяржыцель кладзецца ў яслі нашых сэрцаў, у якіх адбываецца наша ўсынаўленне Самому Тварцу. Успамінаючы, як мудрацы «ўзрадаваліся радасцю вельмі вялікаю. І, увайшоўшы ў дом, яны ўбачылі Дзіця з Марыяю, Маці Яго, і, паўшы, пакланіліся Яму; і, адкрыўшы скарбніцы свае, прынеслі Яму дары: золата, ладан і смірну» (Мф. 2: 10-11), мы павінны спытаць у сябе: а што ж мы прыносім да ясляў, якія прынялі Неўмяшчальнага Бога?

Яму не патрэбны ні наша слава, ні нашы матэрыяльныя дасягненні; марныя думкі і штодзённыя турботы, імкненні людзей узвысіцца адзін над адным з'яўляюцца пылам у вачах Бога. Ва ўсе часы людзі, якія заганарыліся і аддаліліся ад Бога, у выніку рабіліся нікчэмнымі і няшчаснымі.

Няхай жа будзе нашым дарам Бажэственнаму Дзіцяці моцная і шчырая вера, прыклад якой дае нам Прасвятая Багародзіца, бо Яна сказала Архангелу Гаўрыілу, які абвясціў Ёй добрую вестку: «вось, Я – раба Гасподняя; няхай будзе Мне па слову твайму» (Лк. 1: 38). Прападобны Яфрэм Сірын піша, што Дзева Марыя – «Дачка Святла, таму што праз Яе азарыліся Святлом і свет, і жыхары яго». Святая Царква заклікае нас з верай несці свету гэтае Святло, Якое ёсць Гасподзь наш Ісус Хрыстос.

Кожны з нас, для каго Гасподзь – Айцец Нябесны, абавязкова павінен прынесці да Віфлеемскіх ясляў яшчэ адзін дар – любоў: любоў адзін да аднаго, да ўсіх навакольных людзей – гарачую і дзейсную, бо «па тым пазнаюць усе, што вы Мае вучні, калі любоў будзеце мець паміж сабою» (Ін. 13: 35). Побач з намі заўсёды ёсць тыя, хто пакутуе, падае духам, адчайваецца, старыя і нядужыя, хворыя, гаротныя і самотныя. Неабходна разумець, што там, дзе няма любові, узаемнай падтрымкі і адказнасці, гатоўнасці ўсё жыццё прынесці ў дар тым, каго любіш, там няма ні шчасця, ні радасці, ні паўнаты быцця. Гасподзь і Спасіцель чакае ад верных дзяцей Святой Царквы добрых пладоў – служэння любові і міласэрнасці дзеля нашых бліжніх.

...Любоў і мірнае адзінства прынёс на зямлю Гасподзь наш Ісус Хрыстос: «няхай усе будуць адно: як Ты, Ойча, ува Мне, і Я ў Табе, так няхай і яны ў Нас будуць адно» (Ін. 17: 21). Найвышэйшая мэта, указаная прыйшоўшым на зямлю Спасіцелем, – мірнае адзінства людзей у адзінстве з Богам, у адной праваслаўнай веры, у Адзінай, Святой, Саборнай і Апостальскай Царкве. Як верныя дзеці Хрыстовы, усе мы павінны клапаціцца пра захаванне адзінства Святой Праваслаўнай Царквы.

Дарагія і ўзлюбленыя ў Госпадзе Праасвяшчэнныя архіпастыры, айцы, браты і сёстры! Зноў і зноў віншую вас са светлым і радасным святам Раждзжаства Хрыстовага і малітоўна жадаю невычэрпнай благадатнай дапамогі Божай у вашай працы дзеля славы Беларускай Праваслаўнай Царквы, дзеля славы Бацькаўшчыны нашай – благаславеннай Белай Русі, на радасць усім нашым бліжнім. Амінь.

ПРИНЦИПИАЛЬНЫЙ ВОПРОС

## Лукашенко готов вмешаться...

Александр Лукашенко, выступая 7 января на Рождественском богослужении в Свято-Духовом кафедральном соборе Минска, пообещал, что вопрос о большей самостоятельности Белорусской православной церкви будет обсуждаться.

«Все в Церкви (простите меня за это замечание, как президент и глава государства я могу это сказать) должны понимать: Церковь действует и функционирует в условиях суверенного и независимого государства. Да, мы часть этого православного мира, который называется Русская Православная Церковь. Мы не стремимся там к какой-то непонятной автономии и самостоятельности, хотя откровенно скажу – мы это обсудим еще на встрече со священнослужителями – церковь должна развиваться», – подчеркнул Александр Лукашенко.

Он заявил, что мир изменился, Беларусь является суверенным независимым государством, и «все институты власти и организации, в том числе Церковь, должны приспосабливаться к этому, также совершенствоваться в этом направлении…»

**Антонина КОВАЛЕВА.**

КСТАТИ

## Сражение за честь Белорусской Православной Церкви началось раньше

Напомним, что в декабре 2014 года состоялось собрание Минской епархии, на котором за большую самостоятельность БПЦ выступил… митрополит Павел. Дословно он сказал следующее: «Смотрите – в Эстонии два епископа – самоуправляемая церковь, в Латвии два епископа – самоуправляемая, в Молдове пять епископов – самоуправляемая, у нас 16 епископов – мы не самоуправляемая. Где-то даже обидно становится. Так что я буду, наверное, подымать этот вопрос. Даже не знаю, какая будет реакция и решение, но поскольку мы *(аплодисменты)*... Спасибо за поддержку… Двадцать лет назад меня это не задевало, сегодня меня это задевает, потому что здесь уже честь Белорусской Православной Церкви *(аплодисменты)*. Сегодня Русская Православная Церковь, которая находится территориально в границах Российской Федерации это, сами понимаете, мощная церковь, Украинская Православная Церковь тоже мощная церковь, а третья-то идет – Белорусская! Поэтому, конечно, если с вашей стороны будет поддержка, вопрос этот будем подымать, если с вашей стороны будут направлены еще и пожелания и письма, тогда будем обсуждать, тогда будем выносить этот вопрос на решение Синода. Я сторонник того, чтобы Белорусская Православная Церковь была мощная, крепкая, но, как вы сами понимаете, здесь никто из нас не собирается выходить из-под омофора Русской Православной Церкви, ни в коем случае… У нас был патриарх, есть патриарх, поэтому давайте жить в тех условиях, исполняя дух и традиции нашей церкви. Но некоторые моменты будем все равно продвигать...»

Это положение было включено в предварительную редакцию итогового документа в следующей формулировке: «Просить Высокопреосвященнейшего митрополита Павла поставить перед Синодом Белорусской Православной Церкви вопрос о возможности предоставления Белорусской Православной Церкви статуса самоуправляемой церкви в составе Русской Православной Церкви».

Однако позже и митрополит Павел, и БПЦ резко дали задний ход в вопросе самостоятельности. Объяснив это совершенно невнятно: мол, не готовы… Однако несложно догадаться, что инициатива была резко отрицательно встречена в Москве.

**Елена НОВИКОВА.**

ЧУЛІ?

## Учора ў Мінск прывезлі каўчэг з часціцай мошчаў апостала Андрэя Першазванага

Часціца мошчаў апостала Андрэя Першазванага прыбыла ў беларускую сталіцу з грэчаскай выспы Корфу. Святыня з'явілася там у 1537 годзе, яе прынеслі ў мясцовы храм Свяціцеля Мікалая з Іерусаліма, пра што сведчаць дакументы з гістарычнага архіва Корфу. Цяпер па благаславенні мітрапаліта Керкірскага, Паксійскага і Дыяпантыйскіх астравоў Нектарыя яна будзе даступна для пакланення вернікам-беларусам.

Святыня была выстаўлена ўчора ў сталічным храме дабраверната князя Аляксандра Неўскага. Каля 9 гадзін раніцы пачалася цырымонія сустрэчы, а затым прайшла і Боская літургія. Дарэчы, на ўрачыстасці ў храме прысутнічаў і Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі, Патрыяршы Экзарх усея Беларусі Павел, які яшчэ раз павіншаваў беларусаў са святамі і пажадаў ім *"быць бліжэй да Бога"*.

Не сказаць, каб на вуліцы да святыні былі вялізныя чэргі (а дакладней – іх зусім не было), аднак у царкве, што называецца, яблыку не было дзе ўпасці.

Калі людзям пасля літургіі дазволілі пакланіцца мошчам, чарга рушыла з трох бакоў, і нават стварыўся невялікі "затор". Заплакалі дзеці, святары дазвалялі бацькам з самымі маленькімі падыходзіць да каўчэга без чаргі.

Народ цалаваў святыню, людзям дарылі з нагоды прынясення каўчэга ў сталічны храм маленькую іконку і малітву Святому апосталу Андрэю Першазванаму. Хтосьці пасля гэтага ставіў свечкі, нехта ціха маліўся і сыходзіў…

*"Хочацца светлага ў гэтыя дні"*, – казалі прысутныя.

**Алесь СІВЫ.**

ЦЫРК

## Па запрашэнні прынцэсы Манака

Трое паветраных гімнастаў з Мазыра возьмуць удзел у прэстыжным фестывалі цыркавога мастацтва ў Монтэ-Карла. Ён пройдзе з 27 па 31 студзеня.

**Вікторыя Баграянок, Стэфанія Турмовіч** і **Станіслаў Плотнікаў** з мазырскага Цэнтра культуры і цыркавога мастацтва «Арэна» атрымалі запрашэнне на гэтае мерапрыемства, якое праводзіцца пад асабістым патранажам прынцэсы Манака Стэфаніі, дзякуючы шматлікім перамогам на розных міжнародных конкурсах.



У цыркавой сферы ўдзел у гэтым міжнародным фестывалі лічыцца такім жа дасягненнем, як для спартсменаў удзел у Алімпійскіх гульнях.

Цэнтр культуры і цыркавога мастацтва «Арэна» быў створаны ў Мазыры ў 2006 годзе. Зараз у ім займаюцца амаль 100 дзяцей. Выхаванцы асвоілі мноства цыркавых жанраў, у іх ліку акрабаты, паветраныя гімнасты, эквілібрысты, жанглёры, канатаходцы. У 2013 годзе «Арэна» атрымала ганаровае званне «Заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь», а ў 2014 годзе прэзідэнт Беларусі ўручыў калектыву спецыяльную прэмію «За духоўнае адраджэнне» за значны ўклад у папулярызацыю аматарскага цыркавога мастацтва.

ВЕДАЙ НАШЫХ!



## Азаранка – у фінале

*Учора Вікторыя Азаранка выйшла ў фінал тэніснага турніру ў аўстралійскім Брысбене (прызавы фонд – 850 тысяч долараў).*

У паўфінале беларуская тэнісістка, якая займае 22-і радок у сусветнай класіфікацыі, без асаблівых цяжкасцяў перамагла амерыканку Саманту Кроўфард (142-я ў рэтынгу) – 6:0, 6:3.

Дарэчы, у другім раўндзе Азаранка павінна была гуляць з другой ракеткай свету румынкай Сімонай Халеп, але тая не змагла выйсці на корт з-за траўмы. Таксама з-за траўмаў знялася з турніру расіянка Марыя Шарапава і адмовілася браць удзел першая ракетка свету Серэна Уільямс.

У фінале Вікторыя Азаранка згуляе з немкай Ангелікай Кербер (10-ы нумар рэйтынгу ВТА).

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ДА ЎВАГІ!

## Дарагая ... дарога

З 12 студзеня павышаецца кошт праезду ў міжгародніх аўтобусах.

Кошты на квіткі міжгародніх маршрутаў вырастуць у сярэднім на 10%.

Тарыф на аўтамабільныя перавозкі пасажыраў у рэгулярных зносінах на міжгародніх маршрутах вызначаюцца асобна для наступных маршрутаў:

**– за адзін кіламетр праезду:**

Мінск–Гродна праз Баранавічы ў памеры 464 рублі;

Мінск–Магілёў у памеры 500 рублёў;

Мінск–Пінск праз Клецк, Мінск–Пінск праз Сіняўку ў памеры 660 рублёў;

**– за паездку:**

Мінск–Гродна ў памеры 140.000 рублёў,

на ўчастку Мінск–Ліда ў памеры 65.000 рублёў.

Тарыфы на перавозку дзяцей ад 5 да 10 гадоў у рэгулярных зносінах на міжгародніх маршрутах ўсталёўваюцца ў памеры 50% ад устаноўленых тарыфаў. Для зніжкі трэба прадставіць пасведчанне аб нараджэнні або дакумент, які сведчыць асобу аднаго з бацькоў, у якім маецца адзнака аб дзецях.

ФОТАФАКТ



**Беларускія спецназаўцы з часці 3214 унутраных войскаў, што месціцца прама пад Мінскам, таксама святкавалі Раство. Протаіерэй Аляксандр Яцкевіч акрапіў вайскоўцаў святой вадой і правёў малебен.**

